# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 30 (1732) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 23 ЛІПЕНЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.








## „Васілёчкам" пайшоў дваццаць шосты

Нашыя слаўныя, бадай найбольш спелыя на Беласточчыне спевакі, прыгажуны-„Васілёчкі" адсвяткавалі сваё 25-годдзе.

22 чэрвеня г.г. нялёгка было праціснуцца таму, хто спазніўся, у залу Бельскага дома культуры. Людзі стаялі ў дзвярах і на калідоры. Кожны хацеў глянуць на юбіляраў, яшчэ раз пачуць іх песні, даведацца, хто атрымаў узнагароды. Ды да таго ж і „Лявоны" з Воранава, што на Гродзеншчыне, прыехалі і таксама будуць выступаць! А ёсць жа ў зале і амерыканскі „Васілёк", які, хоць і не браў удзелу ў канцэрце, то ўсё ж выклікаў вялікае зацікаўленне.

Святкаванне праходзіла ў радасным, але і дзелавітым настроі. Сцэнарый прадугледжваў на пачатку інтэрв'ю рэдактара беларускіх перадач з Беластоцкага радыёвяшчання Уладзіміра Праховіча з заслужанымі людзьмі хору. Сяргей Лукашук, Васіль Антыпюк, Валянціна Мароз у гэтых інтэрв'ю расказалі аб станаўленні хору, падзяліліся з прысутнымі сваімі ўспамінамі. Былі і смешныя моманты ў гэтых успамінах. Васіль Антыпюк, напрыклад, які быў адным з пачынальнікаў, расказаў, як яны калісьці выступалі ў Рыбаках і пад хорам заламалася сцэна. Людзям было смешна, а нам і страшнавата, казаў ён.

Такім чынам, тыя, што сабраліся на святкаванне юбілею, пачулі кавалак гісторыі хору, а Валодзік Праховіч адразу меў гатовую радыёперадачу.

Хор, які ад 1974 года стаў звацца „Васілёчкі", паўстаў у чэрвені 1964 года. Такія „першапраходцы", як Васіль Антыпюк ці Уладзімір Раеўскі, хадзілі па хатах і збіралі людзей. І людзі прыходзілі ў хор, а вельмі часта нават цэлымі сем'ямі. Паштодзень працавалі яны ў розных прафесіях (інжынеры, настаўнікі, хатнія гаспадыні і нават міліцыянеры). На працягу 25-ці год існавання калектыву „Васілёчкі" праз яго прайшлі сотні людзей. Сёння са „старых" засталося ўсяго 6 асоб, але калектыў расцвіў як ніколі.

Адбыліся ў ім некаторыя змены, але яны толькі пераконваюць нас у тым, што калектыў, нягледзячы на свой узрост, усё маладзее і мужнее. Пабагацеў ён у апошні час на інструментальную групу, стаў больш дынамічны, увёўшы ў свае выступленні пэўныя элементы харэаграфіі (у чым вельмі дапамог калектыву Вёслаў Дамброўскі з Беластока). Хаця наогул з танцамі пакуль што не вельмі ў іх выходзіць („Моладзь не надта горнецца да народных танцаў, больш ёй падабаецца біг-біт").

Як узрасло майстэрства калектыву, можа сведчыць хаця б песня „Сена маладое" ў выкананні мужчынскай групы, якая стала лаўрэаткай конкурсу савецкай песні ў мінулым годзе. Чаго там толькі не было! І адгалоскі вастрэння касы, і чырыканне птушак у траве, і запах скошанага лугу...

Калектыў „Васілёчкі" знаходзіць шырокае прызнанне не толькі тут, на Беласточчыне (зрэшты, калектыў узнагароджаны адзнакай „Заслужаны для Беласточчыны" і значком ТППР), але і на Беларусі. Выезды яго за граніцу адбываюцца штораз часцей. Вось зусім нядаўна вярнуўся са Смаргоні і Мінска. А на Мінскай тэлестудыі быў зняты нават спецыяльны фільм пра „Васілёчкі" (і гэты фільм прысутныя маглі пабачыць пасля заканчэння афіцыйнай і мастацкай частак).

(Працяг на стар. 6)

# „Васілёчкам“ пайшоў дваццаць шосты

(Працяг са стар. 1)

Грандыёзны канцэрт „Васілёчкаў“ у гэты святочны дзень неяк засланіў усе цяжкасці і клопаты штодзённага жыцця, з якімі сутыкаюцца гэтыя самадзейнікі. Вялікае замілаванне да роднай песні, нягледзячы на розныя прафесіянальныя заняткі, якія выконваюць гэтыя людзі дзеля хлеба, з'яднала іх у гэтым хоры. Усё ж магутную сілу мае беларуская песня!

Цешыць факт, што іх грамадская праца мае водгук і сярод людзей, і ва ўлад. На юбілей 25-годдзя Прэзідыум ВРН у Беластоку прызнаў Веры Раеўскай і Валянціне Вашчук залатую адзнаку „Заслужаны для Беласточчыны“, а Ноне Кожан і Галене Пашкоўскай сярэбраную адзнаку „Заслужаны для Беласточчыны“. Узнагароды ўручыў прысутны на юбілеі сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП Мікалай Козак.

ГП ТППР узнагародзіла залатымі значкамі ТППР шэсць асоб з хору „Васілёчкі“: Юрку Харкевіча, Лідзію Белах, Мікалая Ваўрыновіча, Гражыну Каляду, Ніну Кручкоўскую і Канстанціна Селевановіча.


*Дырэктар Гайнаўскага дома культуры М. Бушко віншуе дырэктара Бельскага дома культуры і кіраўніка „Васілёчкаў“ Сяргея Лукашука.*

Сыплюцца ўзнагароды і сардэчныя пажаданні калектыву. Ад імя Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку ўручае ліст міністра культуры і мастацтва і калектыўную ўзнагароду дырэктар Марыя Маранда, ад імя ГП БГКТ выступае старшыня Аляксандр Баршчэўскі, які ўручае калектыву 265 тысяч злотых. Уручаецца таксама ўзнагарода начальніка горада Бельск-Падляшскі (а таксама віншавальныя лісты Янку Шурбаку і Уладзіміру Раеўскаму).

А пасля: зычанні ад Гайнаўскага дома культуры (М. Бушко), ад Беластоцкага гарадскога аддзела БГКТ (В. Ласкевіч) і іншых.

І яшчэ з цёплымі прамовамі выступілі дзве жанчыны.


*М. Маранда, дырэктар Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы, перадае віншавальны ліст ад міністра культуры і мастацтва.*

МІКОЛА ІВАНОЎ

# ДА ГІСТОРЫІ СТАЛІНІЗМУ НА БЕЛАРУСІ

### УСТУП

Даволі часта аб Беларусі можна сустрэць уяўленне як аб вузкім кавалку распаленага жалеза, заціснутым паміж маскоўскім молатам і польскім кавадлам. І сапраўды, заўсёды была яна (у нейкім сэнсе патэнцыяльна застаецца і сёння) арэнай натуральнага саперніцтва паміж Польшчай і Расіяй. Свайго апагею гэтае саперніцтва на жывым целе беларускага народа дасягнула ў міжваенны перыяд нашага стагоддзя. Гэта быў перыяд неабмежаванага панавання сталінізму ў СССР, перыяд станаўлення і ўмацавання пасля амаль паўтаравекавой няволі польскай незалежнай дзяржавы. Падзеленая з аптэкарскай дакладнасцю амаль на дзве роўныя часткі, Беларусь стала аб'ектам супрацьборства дзвюх узаемавыключных ідэалогій: польскага нацыяналізму і сталінскага дэспатызму, закамуфліраванага пад камуністычны інтэрнацыяналізм, які, як вядома, з сапраўдным ленінскім разуменнем інтэрнацыяналізму не мае нічога супольнага.

Вонкава гэтыя два падыходы да беларускага пытання былі падобныя. Палякі адразу ўзялі курс на абмежаванне беларускасці ва ўсіх яе праявах і ў перспектыве на яе канчатковае падаўленне. Польская канцэпцыя ў адрозненні ад сталінскіх планаў была на дзіва паслядоўнай у сваёй прымітыўнасці. Яна практычна не пакідала месца на існаванне нават сімвалічнай прапольскай плыні ў беларускім руху. Беларусы-калабарацыяністы ў Заходняй Беларусі існавалі амаль выключна ў арсенале сталінскай прапагандысцкай машыны, але не ў сапраўднасці.

Канчатковыя мэты сталіністаў у дачыненні да беларускага народа таксама выражаліся ў імкненні да знішчэння беларускай нацыянальнай самасвядомасці, праследавання беларускай культуры і ўваходу беларусаў у новую „гістарычную супольнасць — савецкі народ“. Сталінская нацыянальная палітыка не была, аднак, аднастайнай. Яна выводзілася з вядомай „ленінскай нацыянальнай палітыкі“ перыяду нэпу, якая часова спрыяла беларусам у будаўніцтве на тэрыторыі Усходняй Беларусі свайго сапраўднага нацыянальнага ачага.

Як ацаніць гэты кароткі перыяд сапраўднага росквіту беларускасці ў савецкіх умовах? Чаму так хутка і з такой жорсткасцю сталіністы пачалі нішчыць усё, што ўдалося стварыць у галіне ўмацавання беларускасці ў перыяд легендарнай беларусізацыі? На жаль, у сучасных даследчыкаў гэтага феномену няма, ды і наўрад ці калі-небудзь будзе адназначнае вытлумачэнне істоты гэтых падзей. Напрыклад, некаторыя заходнія саветолагі ў якасці аргументаў прыгадваюць факт, што падобнае развіццё падзей з'яўляецца натуральным шляхам кожнай вялікай і крывавай рэвалюцыі, якая раней ці пазней з'ядае сваіх дзяцей. Іншыя ў якасці фактара ўплыву на нараджэнне і хуткае ўмацаванне сталінскай сістэмы ўлады падаюць наступны факт. Спроба ажыццяўлення будаўніцтва сацыялізма адбывалася ў адсталай краіне азіяцкага тыпу, у якой традыцыі дэспатызму і абсалютызму былі вельмі моцныя. Гэта і абумовіла так доўгае і неабмежаванае панаванне сталінізму. Нам, аднак, найбольш блізкая наступная версія вытлумачэння гэтага феномену міжваеннай гісторыі. Кароткі перыяд „нацыянальнага нэпу“ ў савецкай гісторыі быў часам, калі ў нетрах яшчэ неакрэплага савецкага грамадства паволі выспяваў сталінізм. Створаная яшчэ Леніным шматлікая партбюракратыя ў ходзе разнастайных ліберальных эксперыментаў тыпу беларусізацыі паволі пераконвалася ў тым, якія выключныя магчымасці для нічым неабмежаванай улады тоіць у сабе сістэма, якую прапанаваў Сталін. Сталін быў усяго толькі выразнікам інтарэсаў новай паслярэвалюцыйнай партыйнай бюракратыі. Новая бюракратыя была пазбаўлена дарэвалюцыйных бальшавіцкіх ілюзій, а яе фанатызм праяўляўся ў абсалютнай вернасці Сталіну і сталінізму, а не марксісцка-ленінскай ідэалогіі.

Галоўная адметная рыса сталінскай сістэмы гэта перманентны масавы тэрор у адносінах да сапраўдных і патэнцыяльных праціўнікаў, а таксама супроць нейтральных элементаў і нават супроць не заўсёды паслядоўных прыхільнікаў. Прычым, гэта тэрор асаблівага гатунку. Сваёй масавасцю і бязлітаснасцю ён ствараў атмасферу ўсеагульнага страху і жорсткай абыякавасці. Ён аднолькава разбэшчана ўплываў як на выканаўцаў тэрору, так і на саміх тэрарызуемых. Ён абніжаў узровень самасвядомасці паасобных людзей і нацыянальнай самасвядомасці цэлых народаў. Свет усеагульнага тэрору панаваў нагэтулькі натуральна, што людзі, якіх не ўдалося адразу тэрарызаваць, выглядалі як вар'яты, як іншароднае цела грамадства, якое раней ці пазней трэба вырваць з коранем. Тэрор сталінскага крою толькі тады дасягаў сваёй мэты, калі тэрарызаваны чалавек пачынаў успрымаць сваё становішча як нармальнае, калі яму пачынала здавацца, што ў тым сваім закутку, куды яго загнаў тэрор, ён можа свабодна дыхаць, жыць, працаваць і нават быць шчаслівым. Удумаемся ў сэнс вядомай савецкай песні, якую спявала ў канцы 30-х гадоў амаль уся краіна:

„Широка страна моя родная,
Много в ней лесов, полей и рек,
Я другой такой страны не знаю,
Где так вольно дышит человек“.

Нічога дзіўнага, што гэта была любімая песня І. В. Сталіна.

Беларусы і украінцы панеслі ад сталінскіх рэпрэсій, бадай што, найбольшыя страты сярод усіх савецкіх народаў. Сёння, аднак, мы звяртаемся да апісання гэтай жудаснай старонкі нашай гісторыі не дзеля таго, каб дражніць старыя раны, а каб ушанаваць памяць тых, хто бязвінна загінуў, і каб зразумець глыбіню нашага падзення. Бо ж беларусы былі, вядома, па абодвух баках барыкад: як сярод ахвяр тэрору, так і сярод тых, хто яго арганізаваў.

Сталінізм, безумоўна, затрымаў паступовае нацыянальнае развіццё нашага народа. Але ён быў не ў стане прыпыніць яго. Сталінізм на Беларусі не дасягнуў сваёй галоўнай мэты: яму не ўдалося дэнацыяналізаваць беларусаў. А новае нацыянальнае адраджэнне, сведкамі якога мы сёння з'яўляемся, можа і павінна канчаткова знішчыць рэшткі сталінізму на Беларусі.

(Працяг будзе)

 

**ЗОРКА**

**СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ**

**УДЗЕЛЬНІКІ КОНКУРСУ „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ '89" ДЛЯ ШКОЛЬНІКАЎ**



Малодшая вакальна-танцавальная група з Кляшчэляў. Фота Я. Чэрнякевіч.




Фрагмент этнаграфічнага куточка ў школе ў Дубяжыне. Ёсць тут і старыя прылады хатняга ўжытку, гладышы і чыгуны, дзве розныя па канструкцыі маслабойкі, саматканыя ходнікі і сурвэткі, а над усім гэтым — выстаўка сучасных выданняў Беларускага таварыства. Фота Я. Чэрнякевіч.

Вісарыён Гарбук

# КРАПІВА

Мы гулялі на пустэчы за гаражамі: ахоўвалі мяжу ад парушальнікаў. Я быў у групе пошуку. Асцярожна прабіраўся па зарасніках бур'яну і ўбачыў цётку.

Цётка сцябала сябе па голых руках крапівой. Сцябала і нават не моршчылася.

— Што вы робіце? — здзівіўся я.

— Правяраю, ці ёсць у мяне мужнасць, — усміхнулася цётка. — І характар загартоўваю.

— Кожны дзень?

— Не, не кожны, а калі вельмі трэба.

Я ведаў: трэба — значыць, трэба. Асабліва, калі вельмі трэба. Ды толькі якое гэта прыкрае слова „трэба"! Робіш тое, чаго не хочацца. Вось і цётка...

Гуляць расхацелася. Я забраўся як мага далей у зараснік бур'яну, задумаўся: „А ці ёсць у мяне мужнасць, характар? Як даведацца? Няўжо трэба выпрабоўваць крапівой?"

Я загледзеўся на стракатых матылькоў-крапіўнікаў. Яны ўпэўнена ляталі сярод крапівы, адпачывалі на кветках грознага чартапалоху.

Праходзіў дзень за днём, а цётка з пучком крапівы неадступна стаяла перад маімі вачыма. Усміхалася і пытала: „Ну як, праверыў сябе?"

Усё часцей на вочы траплялася крапіва. Куды ні пайду, стаіць і дражніцца: „Боязна?.. Мяне баішся... А Генку, гэтага задзіру, ты правучыў? Ён цябе так з'едліва высмеяў, а ты прамаўчаў. Не, няма ў цябе мужнасці! Няма характару!.."

Раззлаваўся на крапіву-жы-

(Працяг на стар. 10)

Валянціна Коўтун

## КНІГА БЕЛАВЕЖЫ

Паміж дрэў — дыван луп'я,
Тут зубрыная сям'я.
Бацька-зубр на мох прылёг,
Аб пянёк пачухаў рог:
— Што ж, сынок,
У добры час
Рушыць трэба
У першы клас!
Бавіць час табе даволі,
Вучаць у пушчанскай школе,
Хто твой сябар,
Хто — чужы,
Як сумленна трэба жыць...

А падручнік самы лепшы —
Гэта кніга
Белавежы!

## АЛЕНЬ І СОНЕЙКА

Як пачаўся летні дзень, —
Грыбнікі стараюцца.
Ці не ведаеш, алень,
Дзе грыбы хаваюцца?

Пахадзілі цэлы дзень,
А ў кашах — не поўнанька.
На рагах, стары алень,
Патрымай сонейка!

Грыбнікам дапамажы,
Каб грыбоў было —
кашы!

## ВОЖЫК ПЫХ

Адмысловы шавец
Вожык Пых, лясны кравец.
У майстэрні пад кустом
Шыў мядзведзю паліто.
Шмат іголак пакрышыў,
Ды абнову ўсё ж пашыў.
Ох ты, вожык,
Ох, шавец!
Шые футры кравец
Для ваўка, лісы, вавёркі,
А ў самога —
Толькі голкі!



## ЖАЛУДОВАЯ СТАЛОЎКА

Да імшарын цёплых звык
Рые там карэнне дзік,
Корміць імі парасятак
У піжамах паласатых.

Зелянее дуб каронай,
Жалудоў там смачных поўна,
Ды шкада, што завысока
Жалудовая сталоўка.

Як зарохкаў дзік тады —
Пасыпаліся жалуды!

## РЫСЬ

З цёмных шатаў вочы —
бліСЬ!
За ласём палюе рысь.

Не спяшай, нябога, —
У лася ёсць рогі!





 

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) пералётная птушка з атрада вераб'іных, 3) ад яго ў вушах закладае, 5) можа выбіць збожжа, 7) група людзей, якая ставіць п'есы, 10) далёка ад Рыму, 11) хлусня, 12) у канцы сказа, 14) плыве праз Беларусь і Украіну, 15) звычайна тоўстая кніга, 17) шкло ў аптычнай прыладзе, 19) палахлівец яе не мае, 20) спалучаны каналам з Волгай, 21) калі сцямнее, 22) кат Беларусі ў сталінскія часы, 24) цвёрдае паліва з вугалю або торфу, 26) калі пісьмо то не на дрэве, 28) беспрынцыповы дзялок, прайдзісвет, 30) родам з пекла, 31) абмежаваны акружнасцю, 32) водгалас, водгук.

**Уніз:** 1) мозг у касцях, 2) ежа жывёлы, 3) хросны бацька для бацькі, 4) задняя частка шыі, 5) трукат пасля маланкі, 6) драўляная прылада, якая мацуе аглоблі да хамута, 7) бярэцца за справу без належнай падрыхтоўкі, 8) шукае ў зямлі карысных выкапняў, 9) дзесяты сярод дванаццаці, 12) шые і пора, 13) можа быць на ваўкоў, 14) пасадзіў рэпку і не мог яе сам выцягнуць, 16) на канцы сантыметра, але ў сто разоў даўжэйшы за яго, 18) папугай з доўгім чубам і моцнай дзюбай, 23) польскі паэт (перастаў „сынка"), 24) знак у пачатку нотнага радка або чарада птушак на небе, 25) бацька мужа для бацькі жонкі, 26) ім вымяраецца ёмістасць, 27) духавы музычны інструмент, 29) вугал.

„ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 24.

**Упоперак:** баравік, Варшава, вясло, насілле, бадылле, талер, кілішак, азіяткі, адказ, класік, Талака, нажніцы, граблі, нэндза, генацыд, скарга, апарат, сіняк, кухарка, латышка, быдла, няздара, дантыст, кулак, анафара, аметыст.

**Уніз:** Бангкок, русалка, валошкі, кветка, асілак, вобраз, радзіма, аплатка, аселіца, дажынкі, авіяцыя, лірык, Сібір, кніга, Тында, лента, казка, сукенка, абхазка, гарбата, пытанне, рошчыны, трактат, сабака, нядоля, кладка.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Аляксандр Дабчынскі з Бацютаў і Віктар Корбут з Мінска







— Скора! Хуткую дапамогу!

# АФАРЫЗМЫ

*

I як тут не быць аптымістам. Мае ворагі аказаліся — як дагэтуль — такімі свіннямі, як я прадбачыў.

*

Недахоп таленту наганяе недахопам характару.

*

Напісаў: „Пагалоўе быдла ўзрасло". Аптыміст? Песіміст?

*

Разумовая цесната расшыраецца.

**Станіслаў Ежы Лец**



## БЫЛО Ў ЦЁШЧЫ ТРЫ ЗЯЦІ

Было ў цёшчы тры зяці,
Любіла іх яна без меры
I як бывае у жыцці,
Рашыла хітра іх праверыць.

На першы дзень пасля вяселля,
Пайшоўшы з цёшчай на
прыроду,
Зяці над рэчкаю прыселі
I раптам цёшча бух у воду.

Малодшы зяць сказаў
па-хвацку:
„Памру, а цёшчу уратую".
Яе злавіў ён па-рыбацку,
Як дзедка рыбку залатую.

Назаўтра ўстаўшы на світанні,
Убачыў „Ладу" зяць ля дому.
На ёй вісела завяшчанне:
„Ад цёшчы зяцю дарагому".

На трэці дзень пасля вяселля,
Пайшоўшы з цёшчай
на прыроду,
Зяці над рэчкаю прыселі,
I зноўку цёшча бух у воду.

Сярэдні зяць не даўшы маху,
Нырнуў да самага Нептуна.
Ён цёшчу вызваліў ад страху,
Бо памагла яму фартуна.

Назаўтра ўстаўшы на світанні,
Убачыў „Ніву" зяць ля дому.
На ёй вісела завяшчанне:
„Ад цёшчы зяцю дарагому".

На пяты дзень пасля вяселля,
Пайшоўшы з цёшчай
на прыроду,
Зяці над рэчкаю прыселі,
I зноўку цёшча бух у воду.

Старэйшы зяць прачуў навіну,
Што грошы скончыліся
ў цёшчы.
Яе павудзіў ён з хвіліну...
I ракі цёшчу хоп у клешчы.

Назаўтра ўстаўшы на світанні,
Убачыў „Волгу" зяць ля дому.
На ёй вісела завяшчанне:
„Ад цесця зяцю дарагому".

**Янка Нясута**

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## ЕХАЎ МОЙ МІЛОЙ

(народная)

Ехаў мой мілой
Чужой стараной,
Чужой стараной,
Незнаёмаю.

Ды зняў ён з мяне
Кальцо новае,
Кальцо новае,
Абручонае.

Кальцо новае,
Абручонае,
Цалаваў мяне
Ў шчаку правую.

— Не цалуй мяне,
Не ўгаварывай,
Не любіш мяне,
Не абманывай.






— Праваднік, дзе спальны вагон?

# ГУМАР З БАРАДОЮ

### АДГАВАРЫЎСЯ

Антось злавіў у сваім свірне злодзея, які выкладаў з кубельца сала. Быў гэта сусед Нупрэй.

— Нупрэй, што ты тут робіш? — спытаўся гаспадар.

— Ката шукаю!

— Якога ката?

— Ну, свайго. Я думаў, што ты яго зачыніў тут, каб мышэй вылавіў.

### I ТОЕ I ДРУГОЕ

Аднойчы да хцівай гаспадыні прыйшоў госць. Стала яна думаць, як бы эканомней яго пачаставаць. Нарэшце прыдумала: „Спытаю ў яго, што б падрыхтаваць. Магчыма з-за сціпласці наогул адмовіцца ад пачастунку?"

— Што вам падрыхтаваць: кашу ці смажаніну? — ветліва спытала яна.

— Ай, падрыхтуйце і тое і другое, не прападзе, — адказаў госць.

*Даслаў*
*Алег Урбановіч з Ліды.*



**Сцвярджэнні „не вельмі п'яны" і „не вельмі цвярозы" — абазначаюць адно і тое ж самае?**